# СВАБОДА

1 лютага 1995 г.

№5

Кошт 200 рублёў

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 60 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41


# Лукашэнка пазбаўляе беларускую эканоміку надзеі

**30 студзеня скончыўся тэрмін, калі Беларусь магла атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду крэдыт сыстэмных трансфармацыяў (СТФ). 100 млн. даляраў нашая краіна страціла дзякуючы Лукашэнку назаўжды.**

Рэч у тым, што крэдыт сыстэмных трансфармацыяў выдзяляецца спэцыяльна для краінаў былога Савецкага Саюзу. Першую частку Беларусь атрымала яшчэ ў жніўні 1993 г. Тады ўрад Кебіча выкарыстаў гэтыя грошы ў асноўным на аплату расейскіх энэрганосьбітаў.

Для атрыманьня другой часткі, паводле правілаў, даецца паўтара гады. Гэты тэрмін для Беларусі заканчваецца 2 лютага. 30 студзеня Рада дырэктараў МВФ павінна была сабрацца і абмеркаваць праблему выдзяленьня нашай краіне другой часткі СТФ ў памеры 100 млн. даляраў. Аднак, паколькі Беларусь ня выканала свае абавязкі, беларускае пытаньне нават не было ўключанае ў парадак дня паседжаньня Рады фонду.

Гаворка ідзе найперш пра павышэньне тарыфаў на камунальныя паслугі. Варта прыгадаць, што падчас візыту місіі МВФ у Менск некалькі тыдняў таму кіраўнікі беларускага ўраду давалі самыя цьвёрдыя абяцаньні прадстаўнікам фонду. У сродках масавай інфармацыі нават было распаўсюджанае паведамленьне прэс-службы ўраду аб дасягненьні поўнага паразуменьня паміж Кабінэтам міністраў і МВФ. Дарэчы, у гэтым канкрэтным выпадку ўрадоўцы казалі праўду: у Кабінэце міністраў сапраўды існуе рэальная адзінадушнасьць наконт неабходнасьці рэформаў у сыстэме камунальных плацяжоў. Праект адпаведнай пастановы даўно ўжо падрыхтаваны. У параўнаньні са сьнежаньскім, новы варыянт мае больш выразную сацыяльную арыентаванасьць.

Ёсьць толькі адно *але*, якое стаіць па-над здаровым сэнсам і ўсім Кабінэтам міністраў. Гэтае *але* называецца Аляксандрам Лукашэнкам і займае пасаду прэзыдэнта Беларусі. Лукашэнка, са словаў аднаго эканамічнага дарадцы ў Кабінэце міністраў, "упёрся, і цяпер яго не перакапаць". Растлумачыць увесь драматызм сытуацыі "эканамісту" Лукашэнку спрабавалі прэм'ер-міністар М.Чыгір, віцэ-прэм'ер М.Мясьніковіч, кіраўнік аналітычнага цэнтру адміністрацыі П.Капітула. Але ўсё безвынікова. Апрача таго, што цяпер да прэзыдэнта цяжка прабіцца нават віцэ-прэм'еру, найбольшую праблему ўяўляе паталягічнае нежаданьне Лукашэнкі каго-небудзь слухаць пры прыняцьці рашэньняў.

Дайшло нават да таго, што ў мінулую сераду прэм'ер-міністар М.Чыгір патэлефанаваў выканаўчаму дырэктару МВФ Мішэлю Камдэсю з просьбаю дазволіць адкласьці рэформу сыстэмы камунальных плацяжоў да завяршэньня ацяпляльнага сэзону (1 траўня). Сп.Камдэсю вымушаны былі нагадаць, што адпаведныя абавязацельствы былі прынятыя Беларусяй яшчэ ў сьнежні 1993 г. Новая ўлада рашуча пацьвердзіла іх у сваёй антыкрызыснай праграме. Такім чынам, МВФ ветліва, але вельмі адназначна выказаў немагчымасьць адтэрміноўкі гэтых мераў. Лукашэнка, дарэчы, не пажадаў сам тэлефанаваць кіраўніцтву фонду, бо першая такая размова ў пачатку студзеня скончылася для яго поўным правалам. Як бачым, аднак, і прэм'еру Чыгіру не ўдалося зьмяніць прынцыповую пазыцыю МВФ.

Невыкананьне Беларусяй абавязацельстваў безумоўна пацягне наступствы, якія, на думку некаторых эканамістаў у Кабінэце міністраў, "страшна прагназаваць". Відавочна, што МВФ зьяўляецца свайго кшталту сьветлафорам для іншых міжнародных інвэстараў. Цяпер на іхным шляху ў Беларусь загарыцца чырвонае сьвятло. Тымчасам, нават віцэ-прэм'ер В.Кокараў прызнаецца, што без замежных інвэстыцыяў узьдым беларускай эканомікі немагчымы.

Такім чынам, папулісцкі авантурызм Лукашэнкі пазбаўляе Беларусь надзеі на пазытыўнае разьвіцьцё нашай эканомікі ў бліжэйшы пэрыяд. Гісторыя з крэдытам МВФ пераконвае ў чарговы раз, што Лукашэнка нядоўны бачыць пэрспэктыву і дзеля часовага рэйтынгу гатовы ахвяраваць ня толькі стратэгічнымі інтарэсамі краіны, але нават і інтарэсамі свайго рэжыму. А гэта, як мне падаецца, красамоўна сьведчыць, што ён нават сам ня верыць, што прыйшоў "усур'ёз і надоўга".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

*Падпісацца на газэту СВАБОДА можна ў любым паштовым аддзяленьні. Наш падпісны індэкс — 63887*



# На нашай мяжы будуць камандаваць расейцы

**Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ, паміж Менскам і Масквой вядуцца перамовы, каб "узмацніць" камандаваньне беларускіх Памежных войскаў расейскімі афіцэрамі.**

Апрача двух расейскіх генэралаў, якія будуць намесьнікамі ў нашага камандуючага, у цэнтральны апарат Памежных войскаў Беларусі зьбіраюцца ўзяць яшчэ групу расейскіх афіцэраў, але пакуль ня вырашанае пытаньне, хто павінен забясьпечыць іх кватэрамі — беларускі ці расейскі бок.

Акрамя таго, у кожным беларускім памежным атрадзе намесьнікам камандзера таксама будзе расейскі афіцэр.

**Іван СІДАР**

# З расейскага канвэеру сьмерці

**На Магілёўшчыне ёсьць першыя ахвяры расейска-чачэнскай вайны.**

Гэта 41-гадовы палкоўнік П.Пескежаў з Дрыбінскага раёну і 25-гадовы лейтэнант С.Касмачоў з Мсьціслаўскага раёну. Абодва яны скончылі вайсковыя вучэльні ў Расеі, а Пескежаў таксама і Санкт-Пецярбургскую ваенную акадэмію. Іх пахавалі на радзіме.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Хуткасная чыгунка "зьніжае хуткасьць"

**Пытаньні будаўніцтва і рэканструкцыі чыгуначнай магістралі Бэрлін—Берасьце—Менск абмяркоўваліся на нарадзе кіраўнікоў транспартных міністэрстваў Нямеччыны і Беларусі, якая адбылася 24 студзеня ў Бэрліне.**

Беларускую дэлегацыю ўзначальваў міністар транспарту і камунікацыяў Аляксандар Лукашоў. Нямецкі бок запрасіў узяць удзел у нарадзе буйных банкіраў, каб прыцягнуць прыватны капітал. Аднак нямецкія банкіры палічылі прапанаваны праект нявыгадным і адмовіліся крэдытаваць рэканструкцыю магістралі Берасьце—Менск. Цяпер Беларусі давядзецца весьці работы ўласнымі сіламі, а таму магістраль будзе не такой хуткаснай, як меркавалі: цягнікі будуць бегчы ня больш за 160 км на гадзіну замест плянавых 350-ці.

*БелаПАН*

## *Паведамленьне Управы БНФ*

Управа БНФ "Адраджэньне" пацьвярджае, што Народны Фронт заўсёды адмаўляў неабгрунтаваныя прывілеі.

Мы выступаем супраць прыняцьця законаў аб Савеце Міністраў, аб Вярхоўным Савеце і аб Прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь пры наяўнасьці ў іх артыкулаў, якія ўзаконьваюць неабгрунтаваныя прывілеі для членаў ураду, дэпутатаў і прэзыдэнта.

*30 студзеня 1995 г.*

# Маскве ўжо не хапае сваіх салдатаў

**Міністар замежных справаў Расеі А.Козыраў нездарма казаў, што пра "сумесную ахову нашых зьнешніх межаў спэцыялісты ўжо дамовіліся".**

Сяржант запасу Г. паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ў Берасьцейскім атрадзе памежнага кантролю, дзе ён нядаўна скончыў тэрміновую вайсковую службу, вербавалі салдатаў у Расею. У прыватнасьці, ён сказаў, што ў канцы сьнежня 1994 г. нядаўна прызваных салдатаў па адным выклікалі ў штаб вайсковай часткі і прапаноўвалі ім перайсьці служыць на таджыкска-афганскую мяжу ці ў склад расейскіх войскаў у Чачні, абяцаючы плату каля 6 млн. расейскіх рублёў у месяц. Пры гэтым служба залічваецца ў абавязковы тэрмін.

Знайшліся некалькі ахвотнікаў, як казалі салдаты, — з "самых дурных".

**Усевалад РАГОЙША**



# Хто намі кіруе

## Пад выглядам прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі адбылася зьмена ўладарных кланаў

Як ні дзіўна, яшчэ дагэтуль ёсьць людзі, якія вераць (ці прымушаюць сябе верыць), што сёньняшняя ўлада здольная на нейкія пазытыўныя, стваральныя дзеяньні. На адной імправізаванай палітычнай "тусоўцы" літаральна днямі давялося пачуць: "Идет массированная травля президента..." Што ж, хочуць верыць у "добрага цара" — рэфарматара, хай вераць — іхная справа.

Палітычная рэальнасьць іншая: пад выглядам выбараў прэзыдэнта адбылася зьмена ўладарных кланаў на Беларусі. Гэта, зрэшты, стала вынікам тых працэсаў, што высьпявалі ўсе 80-я гады, але былі прыпыненыя разбурэньнем СССР і забаронай КПСС.

### Як гэта рабілася ў БССР

Нагадаем не такое далёкае мінулае. Тады дзейнічаў адладжаны мэханізм набору кадраў у палітычную эліту. Калі нехта ішоў "наверх", ягонае месца тут жа займаў іншы прадстаўнік клану, найчасьцей — з таго самага рэгіёну. Рухаўся далей "патрон" — пасоўваўся і той, хто дыхаў яму ў патыліцу.

Тыповы прыклад: *Аксёнаў і Бровікаў.* У свой час А.Аксёнаў працаваў сакратаром ЦК ВЛКСМ у Маскве. Маскоўскія сувязі яму дапамаглі. З 1966 да 1971 г. А.Аксёнаў — першы сакратар Віцебскага абкаму партыі. Зь ягонай падачы на пасаду сакратара вылучаецца В.Бровікаў. У 1978 г. Аксёнаў становіцца старшынём Савету Міністраў, Бровікаў займае ягоны былы пост — другога сакратара ЦК. Аксёнаў едзе паслом у Польшчу, Бровікаў замяшчае яго на пасадзе старшыні Саўміну. Нарэшце, у Варшаву Бровікаў едзе, калі Аксёнава прызначаюць кіраўніком Дзяржтэлерадыё СССР.

Атрымліваецца стройная сыстэма, ланцужок перамяшчэньняў членаў клану. У гэтым выпадку — **віцебскага**, які ў 70-я гады быў адным з самых моцных і ўплывовых і, адпаведна, меў найбольш прадстаўнікоў у палітычнай эліце.

Існаваў і другі магутны клан — **менскі** гарадзкі. Дарэчы, надзвычай закрыты: выпадковыя людзі трапіць туды не маглі.

Быў і **"партызанскі"** клан, што абапіраўся ў асноўным на Менскую вобласьць. Але ён пачаў слабець у 70-я гады, калі ўмацаваўся віцебскі клан, які меў цесныя сувязі з Масквой. У "віцебцаў" была мэта — зламаць уплыў П.Машэрава і "партызанаў". Што і ўдалося.

Але на пачатку 80-х на Беларусі пачала панаваць менская групоўка палітыкаў. Найбольш уплывовыя фігуры — *Рэўт, Сьлюнькоў, Ляпёшкін.* Пасьля работы ў Маскве ўсе яны вярнуліся ў Менск на высокія пасады. Перавага менскага клану доўжылася непрацяглы тэрмін. Прыйшла чарга **Берасьця** (*Я.Сакалоў*) і ў самым канцы — **Гомля** (*А.Малафееў, А.Камай*). Гэтым, праўда, давялося паўладарыць зусім мала.

Такім чынам, апошняя гісторыя БССР — гэта гісторыя барацьбы партыйных кланаў за ўладу. Нельга не заўважыць, што ў "слаўную кагорту" ня трапіла Магілёўская вобласьць. Вылучэнцаў з гэтага рэгіёну ў эліце заўсёды было мала, і іхны ўплыў на разьмеркаваньне роляў у палітычным спэктаклі ня быў вялікім.

Можна меркаваць, што цяпер прыйшоў час якраз **магілёўскага** клану. Падчас прэзыдэнцкіх выбараў некаторыя аналітыкі гаварылі пра гэта проста: незадаволеныя амбіцыі Магілёва дазволілі праравацца Лукашэнку. Але ў гэтым толькі частка праўды. Далейшыя падзеі паказалі, што Лукашэнка значна ўдасканаліў, разьвіў, нават у нечым паламаў агульнапрынятыя ўяўленьні аб кланавасьці. Хоць прынцыпы засталіся тыя самыя.

### "Камсамольцы"

Пасьля перамогі Лукашэнкі адкрыта гаварылася, што да ўлады прыйшлі "камсамольцы". У адной з размоваў дэпутат А.Лябедзька гэта пацьвердзіў (ён, як вядома, блізкі да Лукашэнкі чалавек).

Сапраўды, калі прааналізаваць анкетныя зьвесткі бліжэйшага атачэньня прэзыдэнта, то адразу бачна: гэта людзі маладога і сярэдняга ўзросту. Іншымі словамі, у 80-я гады ўсе яны былі толькі на прыступках да сапраўднай улады, нават не на трэціх ролях, а ў камсамоле. Наперадзе іх чакалі: служба ў нізавым апараце райвыканкаму, райкаму КПБ, гаспадарчая работа і інш., — словам, доўгі шлях. Так бы яно і было, калі б ня жнівеньскі путч у Маскве, які разбурыў усе іхныя пляны адносна далейшай кар'еры.

Частка "камсамольцаў" перацякла ў бізнэс, частка ня страціла надзеі палітычна ўваскрэснуць у новай якасьці. Але і першыя, і другія сталі базаю новага "патрона" — Лукашэнкі, не без падставаў разьлічваючы на магчымыя дывідэнды.

Характэрная ў гэтым сэнсе фігура *Леаніда Сініцына.* У 1977 г. ён скончыў Наваполацкі політэхнічны інстытут, па спэцыяльнасьці — будаўнік. Паўтара гады працаваў у Магілёўскім абкаме ЛКСМБ, курыраваў "ударныя будоўлі". Там пазнаёміўся з Лукашэнкам, знаёмыя яны ўжо 7 гадоў, у парляманце сышліся зусім блізка.

Сініцын выказаў ключавую для ўсяго клану фразу: "Шушкевіч працаваў з вузкім колам людзей, у якое я не ўваходзіў". І далей: "Я зразумеў, што трэба мяняць сыстэму ўлады". (Чытай: *мяняць клан).* "Мяняць сыстэму ўлады" жадалі і ўсе іншыя "камсамольцы". Гэта ім падказвала апаратная лёгіка мысьленьня: вы паўладарылі, дайце нам — мы таксама хочам.

### Клан Лукашэнкі

Строга кажучы, Лукашэнка пры стварэньні свайго клану распрацаваў "комплексны" падыход, спалучыўшы дасягненьні папярэднікаў з патрабаваньнямі сучаснасьці.

Лукашэнка ня здрадзіў рэгіянальнаму прынцыпу. На вельмі многіх высокіх пасадах апынуліся ягоныя землякі або тыя, каго ён ведаў па Магілёве. Пра Сініцына ўжо было сказана. Бадай, самы важны пост у адміністрацыі заняў *І.Ціцянкоў,* былы першы сакратар Краснапольскага райкаму КПБ (Магілёўская вобл.).

Старшынём нацыянальнай тэлерадыёкампаніі быў вельмі хутка прызначаны *Р.Кісель,* таксама магіляўчанін.

Міністрам сельскай гаспадаркі стаў В.Лявонаў, былы першы сакратар Магілёўскага абкаму.

Такім чынам, на ключавыя пасты трапілі **свае**, якіх з Лукашэнкам зьвязвае ня толькі барацьба за ўладу, але і агульнае мінулае.

Наступная фракцыя клану — **пакрыўджаныя**. Тут сьпіс, безумоўна, распачынае прэм'ер-міністар *М.Чыгір.* Ягоная дзейнасьць да прызначэньня на гэтую пасаду, яскрава апісаная ў дакладзе С.Антончыка, мае даволі скандальны характар. Тым ня менш, Лукашэнка зь дзьвюх кандыдатураў — Багданкевіч і Чыгір — выбірае апошняга. Чаму?

Па-першае, Чыгір будзе заўсёды ўдзячны "патрону" за выратаваньне ад немінучага пакараньня за тыя фінансавыя афэры, якія ён пракручваў на пасадзе старшыні праўленьня Белаграпрамбанку, і абавязкова зробіць усё так, як скажа "шэф". Свайго роду "кішэнны прэмер".

Па-другое, за Багданкевічам нічога злачыннага не заўважалася. Да таго ж ён вызначаецца больш-менш самастойнай пазыцыяй. Багданкевіч не баяўся б страціць пасаду. Чыгір — баіцца: гэта для яго быў бы поўны крах. Дый, урэшце, Багданкевіч "ня з гэтай пясочніцы".

*Ю.Малумаў* нечакана для многіх узначаліў Камітэт па барацьбе з карупцыяй. Разьлік той самы: у свой час Малумаў дапамагаў знакамітай "камісіі Лукашэнкі", трапіў у няміласьць да начальства, быў звольнены з МУС. Як узнагарода — нядрэнная пасада. А дзе ўзнагарода — там і ўдзячнасьць.

Даволі дзіўным для "недасьведчаных" было прызначэньне на міністра зьнешнеэканамічнага ведамства *М.Марыніча.* Прадстаўнік менскага клану, былы мэр Менска, былы намесьнік старшыні Дзяржкамітэту па зьнешнеэканамічных сувязях, былы пасол у Вугоршчыне, Славакіі і Чэхіі — ён даволі часта фігураваў у матар'ялах Кантрольнай палаты, даваў тлумачэньні і, калі не памыляюся, меў там вельмі дрэнную рэпутацыю. Верагодна, каб выратаваць, яго ў свой час і перавялі на дыпляматычную працу.

Гэтага чалавека Лукашэнка "падабраў", на мой погляд, па дзвюх прычынах. Першая: у зьнешняй эканоміцы яму патрэбны знаўца, але знаўца "заплямлены" мінулымі справамі, на якога можна сьпісаць уласныя пралікі. І, калі прыйдзе час, прыбраць. Другая: ніхто ня скажа, што менскі клан зьнік ці паслабеў. Верагодна, што Марыніч быў прасунуты на гэтую пасаду менавіта менчукамі. Бадай, гэта быў кампраміс, бо Лукашэнка наўрад ці зьбіраецца абвяшчаць вайну іншым кланам.

Нарэшце, *І.Кенік і В.Кокараў.* У сваім дакладзе С.Антончык гаварыў пра чарнобыльскую мафію. Здаецца, сюды трэба дадаць і нафтавую. Ніхто ня можа сказаць, што Кенік і Кокараў — мафіёзі. Хутчэй трэба гаварыць аб іх як аб фігурах, вылучаных чарнобыльскім і нафтавым кланамі.

*В.Далгалёў* — чалавек, які ўзьняўся на выкрыцьці чужых махінацыяў. Праўда, мала хто ведае пра ягоныя ўласныя. Скажам, пра кватэру ў Рагачове, якую ён незаконна перадаў брату. У свой час гэта для яго вылілася ў канфлікт у Кантрольнай палаце, дзе Далгалёў тады працаваў. Урэшце, ня толькі гэта паўплывала на прызначэньне, але і "барацьба з карупцыяй" поплеч Лукашэнкі, іхныя аднолькавыя папулісцкія погляды.

Асобнай групай стаяць **былыя**: *Лінг, Мясьнікові́ч, Гаркун.* Трэба думаць, гэтыя людзі спатрэбіліся Лукашэнку, па-першае, дзеля зьвязкі са старым кланам, а па-другое — як "фігуры прыкрыцьця": на іх можна зваліць уласныя грахі.

Даволі цікава выглядала зьяўленьне ў эліце *А.Саснова* (ён уваходзіў у ценевы кабінэт БНФ). Хутчэй за ўсё гэта папросту падман публікі — маўляў, мы глядзім толькі на прафэсіяналізм. Але ж відавочна, што пасада Саснова (міністар працы) — зусім не ключавы пост ва ўрадзе.

Падагульняючы, трэба сказаць, што навасьпечаны клан завяршае працэс крышталізацыі. Выпадковыя людзі (*Ганчар, Фядута*) яго пакідаюць. Касьцяк акрэсьліўся, набраў моцы, ён будзе ісьці з Лукашэнкам да канца. Ці да таго моманту, пакуль ён будзе клану патрэбны. У гэтай сувязі цікава прыгадаць словы С.Антончыка пра "завхоза" Ціцянкова, які можа стаць магільшчыкам Лукашэнкі. Адна заўвага: пахаваць прэзыдэнта можа ня сам Ціцянкоў, а клан. Бо клан мае свае законы разьвіцьця, узнаўленьня і самазахаваньня, якія не залежаць ад аднаго чалавека.

### Чакаецца год неспакойнага прэзыдэнта

Заканамерна задаць пытаньне: што нясе барацьба кланаў народу Беларусі? Коратка кажучы, далейшае пагаршэньне жыцьця і паглыбленьне нестабільнасьці.

Калі раней партыйныя кланы змагаліся за лідарства, як кажуць, за заслонаю, да звычайных людзей мала што даходзіла, і гэтая барацьба не адбівалася на ўзроўні жыцьця, то цяпер карціна іншая. Адсутнасьць нейкага фактару стрыманьня (увогуле адсутнасьць ідэі, апрача ідэі паляпшэньня ўласнага дабрабыту) вядзе да жорсткіх сутычак паміж кланамі, што адразу ж выклікае нестабільнасьць у грамадзтве.

Небеспадстаўным будзе сьцьверджаньне, што раптоўныя павышэньні цэнаў на прадукты — гэта толькі адгалоскі барацьбы наверсе. І зусім нездарма антыкрызысная праграма Лукашэнкі з трэскам правалілася. Па сутнасьці, увесь час пасьля выбараў ішла патаемная барацьба за перадзел сфэраў уплыву. Яна яшчэ не завершылася, і тут, канечне, не да рэформаў. А выбары ў парлямант ізноў зьменяць сытуацыю.

Няма сумневу, што кожны клан пастараецца правесьці ў парлямант сваіх людзей, і можна чакаць працягу захапляльнага спэктаклю. Таму вельмі лёгка зрабіць прагноз на бліжэйшы год: Беларусь чакае паласа нестабільнасьці і далейшага эканамічнага заняпаду.

Праўда, пры адной умове: калі не ўмяшаецца яшчэ адна, на гэты раз **ня кланавая**, сіла — БНФ. Народны Фронт апошнім часам імкліва набірае папулярнасьць. Апрача таго, ён аб'яднаны сапраўднай ідэяй — ідэяй нацыянальнага адраджэньня.

Біць гэтую карту праціўнікам БНФ няма чым. Раўнацэннай ідэі, якая аб'яднала б грамадзтва, яны прапанаваць ня могуць. Сацыяльная справядлівасьць? Ніхто ў гэта ўжо ня верыць. Аб'яднаньне з Расеяй? Гэта мы праходзілі. Інтэграцыя ў Эўропу? Не гучыць. Прынамсі, з вуснаў Лукашэнкі не гучыць.

Затое кожнаму беларусу блізкая ідэя адраджэньня сваёй краіны як роўнай сярод роўных. І чым далей, тым усё больш гэта відавочна.

**Андрэй СЯРЖАН**



Кіраўнік клану Аляксандар Лукашэнка і сьпікер Мечыслаў Грыб

# Беларусь: шлях у тупік



## Дэпутат Генадзь Карпенка аналізуе пяць месяцаў кіраваньня прэзыдэнта Лукашэнкі

Мінула паўгода з часу выбраньня прэзыдэнта Беларусі. Тэрмін дастатковы, каб склалася пэўнае ўражаньне аб тым курсе, які ён узяў у эканоміцы і палітычным жыцьці краіны.

Палітычныя сілы на Беларусі ўсё больш і больш набіраюць вагу, нягледзячы на ўсе катэгарычныя выказваньні прэзыдэнта і ягонае нэгатыўнае стаўленьне да партыяў і грамадзка-палітычных рухаў. Яны робяцца сапраўднай рэальнасьцю, пра што сьведчаць вынікі апошніх сацыялягічных дасьледаваньняў.

Аднак А.Лукашэнка, не знайшоўшы практычнай падтрымкі ні адной палітычнай сілы, апусьціўся да адкрытых пагрозаў усім палітычным лідарам, абвінаваціўшы іх у супрацьстаяньні прэзыдэнту. А.Лукашэнка робіць усё магчымае, каб стрымаць, запаволіць разьвіцьцё партыяў. Дзеля чаго? Каб выйграць час для фармаваньня ўласнай палітычнай сілы, якая магла б на роўных змагацца з такімі партыямі, як БНФ, партыя камуністаў, партыя народнай згоды... Але гэтая палітыка вядзе толькі да канфрантацыі ў грамадстве. Між тым выйсьці з тупіка нам аніяк ня ўдасца без грамадзянскай лучнасьці палітычных сілаў.

Што тычыцца спробаў прэзыдэнта сфармаваць уласную палітычную сілу, то, думаю, Лукашэнку гэта наўрад удасца. Сёньня яму варта падумаць пра захаваньне "каманды", адкуль пачынаюцца ўцёкі, а не пра стварэньне новай палітычнай сілы.

Не магу не сказаць і аб зьнешняй палітыцы, найперш пра адносіны з Расеяй. У дачыненьнях з Масквой прэзыдэнт паклаў у аснову сваёй палітыкі толькі адну ўмову: дайце танныя нафтапрадукты, газ — і вечная дружба, любоў з боку "малодшага брата" вам будзе забясьпечаная. Такая палітыка перашкаджае ўсталяваньню нармальных эканамічных стасункаў паміж дзьвюма дзяржавамі, якія улічвалі б такія важныя фактары, як плата за транзытныя перавозкі, за нафта- і газаправоды... А што сяброўскія дачыненьні павінны будавацца менавіта на эканамічных інтарэсах, выразна паказала Расея, часова прыпыніўшы пастаўку газу і нагадаўшы гэтым самым нашаму прэзыдэнту ня толькі аб запазычанасьці, але і пра этыку паводзін, маючы на ўвазе абразьлівыя выказваньні Лукашэнкі на адрас прэм'ер-міністра В.Чарнамырдзіна.

Паводзіны Лукашэнкі на міждзяржаўных сустрэчах я назваў бы квадратнаю дыпляматыяй. Дастаткова згадаць, як беспардонна выказаўся Лукашэнка пра ініцыятыву прэзыдэнта Назарбаева аб стварэньні Эўраазіяцкага Саюзу, назваўшы гэтую прапанову "бессмысленной".

У што выліваецца такая "дыпляматыя", мы бачым і адчуваем на сабе. У прыватнасьці, засталіся нерэалізаванымі дамоўленасьці аб пастаўках збожжа з Казахстана і — вырасьлі кошты на муку і хлеб...

Ніякіх практычных вынікаў ня даў і візыт ва Узбэкістан "по женскому вопросу" (менавіта так гарэзьліва выказаўся прэзыдэнт). Падзякаваўшы за цёплую сустрэчу і за даўганогіх дзяўчат, што абслугоўвалі на афіцыйных прыёмах, А.Лукашэнка вярнуўся ў Менск, вырашыўшы, што на гэтым "женский вопрос" закрыты. Але праблема паставак бавоўны так і засталася нявырашанаю.

Акрамя таго, Захад выказвае занепакоенасьць унутранай палітыкай рэжыму Лукашэнкі. Антыдэмакратычная вэртыкаль улады, працэдура прызначэньня кіраўнікоў выканаўчай улады ў вобласьцях, гарадох, раёнах сёньня папросту незразумелыя эўрапейскай супольнасьці. Заява прэзыдэнта, што ён цар, бацька і мае "шалёную" ўладу, выклікае, мякка кажучы, зьдзіўленьне і рэзоннае пытаньне: ці дэмакратычную дзяржаву будуе Беларусь? Такая "шалёная" улада прывяла да шалёных дзеяньняў супраць чацьвёртай улады — прэсы. Забароненая публікацыя дакладу С.Антончыка аб карупцыі, зьнятыя галоўныя рэдактары газэтаў, якія паспрабавалі выказаць пратэст супраць такіх дзеяньняў, перапыненае друкаваньне шэрагу незалежных выданьняў, уведзеная грубая цэнзура на тэлебачаньні.

Даходзіць да таго, што прэзыдэнт, зь ягоных жа словаў, выкарыстоўвае спэцслужбы ў палітычных мэтах, у тым ліку супраць народных дэпутатаў. Чаму Пракуратура Рэспублікі Беларусь не распачынае крымінальную справу супраць такіх дзеяньняў?

Цяпер пра эканамічную сытуацыю ў краіне. Відавочна, што ніякія рынкавыя рэформы не праводзяцца. Адбываецца некантраляваны працэс развалу эканомікі, які вядзе да поўнай сацыяльнай неабароненасьці насельніцтва. У гэтым лёгка пераканацца, калі прааналізаваць узровень мінімальнай заработнай платы ў 1994 г.

На працягу 1994 г. мінімальная заработная плата вырасла з 3 тыс. да 20 тыс. рублёў. Але калі перавесьці гэтую суму ў даляры, то мы бачым на мал. 1, што першыя сем месяцаў МЗП стабільна трымалася на ўзроўні 4 USD, а з прыходам да ўлады Лукашэнкі пачала імкліва зьніжацца — у сьнежні 1994 г. яна складала ўсяго 2 USD.

Зьвярніце таксама ўвагу на мал.2, дзе адлюстравана дынаміка курсу даляра. За першыя сем месяцаў даляр узрос крыху больш чым на 2.000 руб., а за пяць месяцаў кіраваньня Лукашэнкі ён падскочыў ажно на 7.200 руб. Тымчасам, у "Праграме неадкладных мераў...", якую прапанаваў прэзыдэнт, прагназавалася, што да канца 1994 г. тэмпы падзеньня рубля будуць зьніжаныя да 10% у месяц. А ў сапраўднасьці атрымалася, што рубель падаў з хуткасьцю 40—50%.

Сёньня на гэтую праграму зусім забыліся, а новай няма. Варта таксама прыгадаць, што ўрад і прэзыдэнт жорстка атакавалі дэпутатаў, патрабуючы прыняць бюджэт пры адсутнасьці эканамічнай праграмы выйсьця з тупіка.

Але давайце прадоўжым аналіз і паглядзім, што ж ад гэтай заработнай платы ў нас застаецца. Зьвернемся да цэнаў.

**Зьмяненьне коштаў на прадукты харчаваньня за пяць месяцаў кіраваньня Лукашэнкі**

| | | |
|---|---|---|
| Хлеб | — цана вырасла на | 2000% |
| Батон | — | 619% |
| Сьмятана | — | 756% |
| Масла | — | 935% |
| Каўбаса вараная | — | 729% |
| Сьвініна | — | 1011% |
| Ялавічына | — | 652% |
| Яйкі | — | 891% |
| Гарэлка | — | 741% |

Хачу адзначыць, што пра такое паняцьце, як спажывецкі кошык, ні прафсаюзы, ні ўрад апошнія паўгода ўжо не гавораць, а многія папросту забыліся, што туды ўваходзіць. Няма сэнсу нешта шукаць у гэтым эфэмэрным кошыку, дастаткова глянуць на рост цэнаў. Задумайцеся: якім жа трэба быць цынікам, каб казаць пра сацыяльную абарону грамадзянаў! Аднак, як вядома, не адным толькі хлебам жыве чалавек. Паглядзіце, як вырасла за пэрыяд кіраваньня Лукашэнкі **плата за камунальныя паслугі і транспарт:**

| | | |
|---|---|---|
| Электраэнэргія | — плата вырасла на | 900% |
| Цеплаэнэргія | — | 300% |
| Газ | — | 500% |
| Праезд у гарадзкім транспарце | — | 500% |
| Праезд у электрычках | — | 667% |

Складзіце гэтыя лічбы з цэнамі на харчаваньне, а таксама ўлічыце падзеньне рэальнай заработнай платы за апошнія пяць месяцаў у 2 разы, і вам стане зразумелы шлях "к процветанию", якое абяцаў Лукашэнка. Праўда, і тут могуць знайсьціся апраўданьні і тлумачэньні, напрыклад: Майсей 40 гадоў вадзіў свой народ па пустэльні, пакуль ня вывеў, а мы ж толькі прыступілі да сацыяльнай абароны насельніцтва.

Што датычыць платы за жыльлёва-камунальныя паслугі, хачу сказаць: толькі Вярхоўны Савет спыніў яе рэзкае павышэньне, не паверыўшы Кабінэту міністраў, што "народ сасьпеў і разумее неабходнасьць такога павышэньня". Аднак і гэта было ненадоўга. Сёлета растуць цэны на малочныя прадукты, праезд у транспарце. Галава Кабінэту міністраў М.Чыгір настойліва пераконвае нас, што МВФ патрабуе падвышэньня тарыфаў на камунальныя паслугі дзеля працягу рэформаў на Беларусі.

Ня буду спыняцца на перадвыбарчых абяцаньнях А.Лукашэнкі, усе іх выдатна памятаюць. А калі троху забыліся, то паглядзіце старыя газэты. Сёньня важна іншае.

Неабходна шукаць шляхі выйсьця з крызысу. Прэзыдэнцкая "Праграма неадкладных мераў..." цалкам правалілася. Яна ад самага пачатку была невыканальная. Патрэбны сурёзны аналіз прычынаў крызысу, прыцягненьне практыкаў і тэарэтыкаў для распрацоўкі новай, рэальнай праграмы. Неабходнаю ўмовай павінна быць жорсткае выкананьне гэтай праграмы па ўсёй вэртыкалі выканаўчай улады.

Лічу, што выйсьце зь сёньняшняй сытуацыі неабходна шукаць разам усім, хто ўзяў на сябе адказнасьць быць членам ураду, узначальваць уладу ў гарадох і раёнах, усім, хто носіць значак народнага дэпутата, партыям і грамадзка-палітычным арганізацыям. Дарэчы, Партыя народнай згоды разам з іншымі грамадзка-палітычнымі фармаваньнямі гатова ў бліжэйшы час прадставіць прэзыдэнту і грамадзкасьці канцэпцыю эканамічнага разьвіцьця Беларусі.

**Генадзь КАРПЕНКА,**
**дэпутат ВС Беларусі**



**Гэты здымак быў зроблены на мінулым тыдні у Карэліцкай раённай бальніцы. Паглядзіце на гэтую нямоглую старую беларускую жанчыну: яна зьведала ўсе "посьпехі камуністычнага будаўніцтва" і напрыканцы жыцьцёвага шляху хоча толькі аднаго — памерці ў цяпле.**

**Менавіта на плячах такіх вясковых людзей, у бальшыні сваёй пэнсіянэраў,, прыйшоў да ўлады прэзыдэнт Лукашэнка. Ён паабяцаў ім залатыя горы, загадзя ведаючы, што сваіх абяцаньняў ня выканае. Гэта быў сьвядомы і грубы падман даверлівага народу.**

**Дзеля чаго вам, "гаспадзін" Лукашэнка гэтак хацелася атрымаць прэзыдэнцкую ўладу? Каб пакатацца ў шыкоўным лімузыне з кагортаю аховы? Каб пажыць у камфартабэльных прэзыдэнцкіх апартамэнтах ды паесьці смачных харчоў? Каб паезьдзіць ва ўзбэкістаны ды кітаі?.. А на большае, як выяўляецца, Лукашэнка і ня здольны. Дэпутат Антончык у вядомым дакладзе трапна сказаў: "Кебіч пачаў спустошваць Беларусь, а гэтыя даб'юць яе канчаткова".**

**Лукашэнка і ягоныя паплечнікі, якія прайшлі праз камуністычную школу кіраваньня, добра засвоілі ўрокі сваіх папярэднікаў: уладу трэба браць "любой ценою" (падманам, тэрорам і г.д.) і трымаць яе гэткім жа спосабам.**

**А мільёнам беларускіх выбаршчыкаў даводзіцца цяпер плаціць за сваю даверлівасьць надта ж дарагую цану — жабрацтва і сьлёзы адчаю прыйшлі ў тысячы і тысячы сем'яў.**

**"Я п'ю за жэншчын!", — цынічна заяўляе наш "усенародны".**

**Іван СІДАР**

*Малюнак 1*




*Малюнак 2*



